# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№3 (274)
сакавік 2025

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”


**У НУМАРЫ:**





**НЕ ВАЙНЕ!**

**ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ**



# “БУДЗЬМА” ПРОСІЦЬ ПАДТРЫМКІ. СІТУАЦЫЯ КРЫТЫЧНАЯ

Шаноўныя сябры, партнёры, падпісчыкі!

Мы з вамі з 2008 года, а гэта амаль 17 год руплівай працы нашай каманды па пашырэнні беларушчыны, папулярызацыі нашай гісторыі, мовы і культуры. Разам з вамі пераасэнсоўваем ролю і месца беларусаў як нацыі ў мінулым і сённяшнім свеце.

І сёння нам, як ніколі, патрэбна вашая дапамога, каб і надалей мы маглі ствараць для вас унікальны беларускі кантэнт. Мы ведаем, што шмат хто з вас рос разам з “Будзьмай”, пачынаў знаёміцца з беларушчынай праз нашу кампанію, глядзеў і чытаў нас, наведваў нашыя мерапрыемствы. Мы шчыра за гэта ўдзячныя, а зараз просім вашай падтрымкі.

Для таго каб наша каманда магла працягваць працаваць для вас, даносячы важную і цікавую інфармацыю праз партал і сацыяльныя сеткі, каб рэгулярна ствараліся новыя відэа, нам неабходна 16000 еўра ў месяц. Безумоўна, мы і самі шукаем шляхі для вырашэння фінансавых цяжкасцяў, аднак сёння сітуацыя крытычная. Мы не здолеем працягнуць працу без вашай дапамогі.

Таму звяртаемся да вас з просьбай фінансава падтрымаць працу нашай каманды з тым, каб і надалей мы маглі ствараць адметныя відэапраекты, як “Сармат” і “Трызуб і Пагоня”, каб нашыя аўтары пісалі на тыя тэмы, пра якія мала хто піша і гаворыць.

**Калі вы ў Беларусі – не рызыкуйце для нас.**

**Калі вы НЕ ў Беларусі, падтрымаць нас можаце рознымі шляхамі:**

**1.** Набыць кубачак кавы на платформе ko-fi.com (ko-fi.com/budzma). Альбо аформіць падпіску на штомесячную падтрымку.

**2.** Пералічыць ахвяраванне наўпрост на банкаўскі рахунак у Літве:

**Нумар рахунка**: LT874010051003596075

**Банк:** Luminor Bank AS Lithuanian branch, SWIFT AGBLLT2X

**Адрас банка:** Konstitucijos pr. 21A, 03601 Vilnius, Lietuva

**Атрымальнік плацяжу:** VSJ Bukim kartu (“Будзьма разам”)

**Код арганізацыі:** 304102906 (аналаг нашага УНП)

Прызначэнне плацяжу: **Donation**

**3.** Пералічыць ахвяраванне на банкаўскую картку:

**4220 7301 7151 8283**
дзейсная да 11/28
VSJ Bukim kartu

Прызначэнне плацяжу: **Donation**

**4.** Зрабіць данат праз PayPal (paypal.com/paypalme/budzma).

**5.** Калі вы плаціце падаткі **ў Літве**, можаце ахвяраваць нам 1,2% сваіх падаткаў за 2024 год. Уласна вам гэта не будзе каштаваць анічога! Перыяд падачы дэкларацый ужо пачаўся і завершыцца 1 траўня 2025 года.

Падрабязная інструкцыя: budzma.org/news/padatki-budzma.html

**Што мы робім і чаму гэта важна**

“Будзьма беларусамі!” пачыналася як шырокая культурна-асветная кампанія ў Беларусі ў 2008 годзе. Сёння мы вымушана працуем з замежжа, але працягваем пісаць пра Беларусь і беларусаў.

Кожны дзень мы распавядаем пра важныя падзеі беларускага грамадскага і культурнага жыцця, публікуем аўтарскія калонкі, інтэрв’ю з беларускімі творцамі, адкрываем таямніцы нашай гісторыі, знаёмім з цікавосткамі пра беларускую мову, літаратуру, кіно, мастацтва.

“Будзьма беларусамі!” – гэта таксама ютуб-канал (youtube.com/user/thebudzma/videos) з унікальнымі відэапраектамі, дзе мы распавядаем праўду пра невядомыя старонкі гісторыі ў праекце “Трызуб і Пагоня”, знаёмім са шляхецкай культурай у праекце “Сармат”, разбураем стэрэатыпы пра Беларусь і беларусаў у перадачы “Хрусь і папалам!” ды шмат чаго яшчэ.

А на дзіцячым ютуб-канале “Будзьма дзецям” (youtube.com/@BudzmaDzieciam) – кантэнт для маленькіх беларусікаў і беларусачак – казкі, спектаклі, адукацыйныя перадачы. Усё па-беларуску з любоўю і клопатам!

Таксама мы стварылі тэлеграм-бот афішу “Будзьма разам!” (t.me/Budzma_razam_bot), каб вам было прасцей сачыць за беларускімі мерапрыемствамі ў сваім горадзе і па ўсім свеце.

Адным словам – мы ствараем і пашыраем беларускае дзеля нашай і вашай свабоды. Калі і для вас беларушчына – падмурак незалежнасці, як для нас, падтрымайце каманду budzma.org, і мы зможам болей!

Кожны ваш унёсак мае значэнне!

**Будзьма беларусамі і будзьма разам!**

“Будзьма беларусамі!”

# “САРМАТ”. ВІДЭАПРАЕКТ ПРА ШЛЯХЕЦКУЮ КУЛЬТУРУ АД “БУДЗЬМА!”




У відэапраекце “Сармат” (budzma.org/category/video/sarmat) “Будзьма” размаўляе пра шляхецкую культуру ў розных яе аспектах: як жылі, за што жылі, пра што думалі і марылі нашы продкі-шляхцічы.

Вядоўца праекта “Сармат” Васіль Калач – акцёр, рэжысёр, выкладчык гістарычнага фехтавання.

# ШТО СТАГОДДЗЯМІ ЯДНАЕ БЕЛАРУСЬ І УКРАІНУ? ГІСТАРЫЧНЫ СЕРЫЯЛ АД “БУДЗЬМЫ” З КАЦЯРЫНАЙ ВАДАНОСАВАЙ




Цыкл відэа-перадач “Трызуб і Пагоня” (budzma.org/category/video/tryzub-i-pagonya) ад кампаніі “Будзьма беларусамі!” апавядае пра самыя цікавыя і разнастайныя старонкі сумеснай гісторыі Беларусі і Украіны. Таямнічы свет войнаў і інтрыг, кахання і барацьбы за ўладу, смерці і нараджэння дзяржаў адкрыецца гледачам з дапамогай тэлевядоўцы і спявачкі Кацярыны Ваданосавай.

Можна пачуць, што зараз не час на культуру, тым больш не час на беларуска-ўкраінскую гісторыю... Але ці можна перакрэсліць 1000 год нашага супольнага мінулага, агульных герояў і ўсяго, што нас звязвала так доўга? Мы перакананыя, што не!

Чаму гэта так важна? Зменлівы свет занадта часта спрабуе дыктаваць, якім народам сябраваць, якім не. Пра што казаць, а пра што – памаўчаць. З Украінай нас, беларусаў, аб’ядноўвае занадта шмат. Менавіта зараз самы час даведацца, як наша супольная гісторыя выглядала цягам мінулых стагоддзяў.




# “БУДЗЬМА” ЛАМАЕ СТЭРЭАТЫПЫ ПРА БЕЛАРУСАЎ У ВІДЭАПРАЕКЦЕ “ХРУСЬ І ПАПАЛАМ!”

Культурна-асветніцкі партал “Будзьма беларусамі” ў супрацы з “Купалаўцамі” ламае беларусафобныя стэрэатыпы ў новым відэапраекце “Хрусь і папалам” (budzma.org/category/video/khrus-i-papalam). Дапамогуць у гэтай справе блогер “daroha” Валера Руселік і ганаровы чалец “ЧынЧынЧэнэл” Сяргей Мікалаевіч (Міхась Зуй).

Нацыянальныя стэрэатыпы бываюць розныя. Вось што мы, беларусы, можам сказаць пра сябе? Працавітыя, добрыя, талерантныя – бадай, першае, што прыходзіць да галавы, праўда?

Сёння, калі ў Беларусі практычна адсутнічае нацыянальная адукацыя, калі беларуская гісторыя шальмуецца, а нашыя нацыянальныя героі выстаўляюцца чужынцамі і ледзьве не ворагамі беларускага народа, на месца вынішчанай беларушчыны няўмольна паўзе гэтак званы “рускій мир”.

І цягне за сабою зусім іншыя ўяўленні пра беларусаў, культываваныя ўсходнім суседам і навязваныя нам цягам стагоддзяў. І мовы беларускай нібы ніколі не было, і Беларусь – усяго толькі фантазія, і нічога нам не трэба акрамя чаркі ды шкваркі – лапці, адным словам, а не народ!

Культурна-асветніцкі партал “Будзьма беларусамі” ў супрацы з “Купалаўцамі” прапаноўвае ўсім нам адставіць убок тэлевізар і падумаць уласнай галавою, абапіраючыся не на прапаганду, а на цалкам канкрэтныя факты – і разам ламаць стэрэатыпы пра беларусаў, якія нам, беларусам, убіваюць у галовы.

Блогер “daroha” Валера Руселік і ганаровы чалец “ЧынЧынЧэнэл” Сяргей Мікалаевіч (Міхась Зуй) прапаноўваюць вашай увазе нізку відэаперадач, кожная з якіх прысвечана аднаму беларусафобскаму стэрэатыпу.

навіны

# РАДА БНР ДА ДНЯ ВОЛІ СЯРОД ІНШЫХ ПАСМЯРОТНА ЎЗНАГАРОДЗІЛА ОРДЭНАМ МАРЫЮ ЗАЙЦАВУ

Да гадавіны абвяшчэння незалежнасці БНР Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла падпісала дэкрэты аб узнагароджанні адзнакамі Рады БНР.

За асабісты гераізм, выяўлены ў змаганні з расійскімі агрэсарамі за волю народаў Украіны і Беларусі, Ордэнам Жалезнага рыцара ўзнагароджаная беларуская добраахвотніца Марыя Зайцава (пасмяротна).

“Імя гэтай дзяўчыны, якая была цяжка параненая сілавікамі ў часе народнага пратэсту супраць узурпацыі ўлады Лукашэнкам у 2020 годзе, а потым ваявала на фронце і гераічна загінула, увойдзе ў гісторыю беларускай нацыі як сімвал нясконаранасці і адданасці ідэалам свабоды”,– піша Рада БНР.

Яшчэ чатыры асобы ўзнагароджаныя медалём Ордэну Пагоні. Сярод іх:




Ксёндз Вячаслаў Барок. “У барацьбе дабра са злом ён застаўся на баку сваіх вернікаў, якія прагнулі свабоды. Ён быў адным з тых святароў, якіх у 2020-м кінулі за краты за грамадзянскую пазіцыю. Ён працягвае несці Боскае слова да беларусаў у касцёле св. Аляксандра ў Варшаве”, – піша Рада БНР.

Таццяна Гацура-Яворская – стваральніца і кіраўніца рэабілітацыйнага Цэнтру “Ланка” (у Беларусі вядомага як “Звяно”), яна ўратавала жыцці сотняў добраахвотнікаў, якія змагаюцца з расійскімі агрэсарамі ва Украіне.

Алег Груздзіловіч вызначаўся сваёй адданасцю нацыянальнаму Адраджэнню яшчэ ў пачатку 90-х гадоў. Ветэран незалежнай журналістыкі, ён застаўся верным прынцыпам свабоды слова і быў зняволены за сваю прафесійную дзейнасць.

Крысціна Шыянок дапамагала эвакуацыі і лячэнню ў Чэшскай Рэспубліцы параненых у выніку злачынных дзеянняў лукашэнкаўскіх сілавікоў, а таксама пацярпелых ад рэпрэсій беларускіх медыкаў. Цяпер яна ўзначальвае Офіс дэмакратычных сілаў Беларусі ў Празе і імкнецца, каб тэма змагання за незалежнасць Бацькаўшчыны, лёс палітычных вязняў заставаліся пад увагай чэшскіх палітыкаў.

svaboda.org

# “ВОЛЬНЫЯ КУПАЛАЎЦЫ” АТРЫМАЛІ ПРЭМІЮ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ ПОЛЬШЧЫ

Намеснік кіраўніцы Аб’яднанага Пераходнага Кабінета, былы дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Павел Латушка 29 кастрычніка 2024 года скіраваў хадайніцтва міністарцы культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы Ханне Урублеўскай аб прысуджэнні “Вольным Купалаўцам” калектыўнай ганаровай прэміі з Фонду прамоцыі культуры, піша АПК.

Пасля папярэдняй падрыхтоўкі і афармлення ўсіх неабходных дакументаў, здзейсненых супрацоўнікамі НАУ, міністаркай культуры Польшчы Ханнай Урублеўскай 17 сакавіка прынята станоўчае рашэнне аб прызнанні “Вольным Купалаўцам” ганаровай прэміі.

Фонд прамоцыі культуры – гэта дзяржаўная праграма ў Польшчы, якая рэалізуецца Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы, і накіравана на падтрымку развіцця культуры і мастацтва ў краіне праз сацыяльную дапамогу артыстам.

У накіраваным абгрунтаванні ў адрас міністаркі культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы Павел Латушка адзначыў, што пасля палітычных падзей і жорсткіх рэпрэсій, што адбыліся пасля прэзідэнцкіх выбараў у жніўні 2020 года, амаль увесь творчы калектыў тэатра быў вымушаны пакінуць тэатральную ўстанову і стварыў незалежную тэатральную групу. З таго часу “Вольныя Купалаўцы” сталі адным з сімвалаў беларускага руху пратэсту.

“Вольныя Купалаўцы” – гэта ўнікальная незалежная тэатральная група, якая з 2021 года працуе ў эміграцыі ў Польшчы. Калектыў, нягледзячы на цяжкасці, працягвае прасоўваць беларускую культуру, займаецца пастаноўкай спектакляў, якія закранаюць тэмы свабоды, ідэнтычнасці і правоў чалавека.



“Для мяне, як для палітыка, заўсёды будзе прыярытэтам падтрымка нацыянальнай культуры Беларусі, у тым ліку ў выгнанні. Зразумела, што Купалаўскі тэатр заўсёды будзе ў маім сэрцы, і я буду рабіць усё дзеля таго, каб дапамагаць “Вольным Купалаўцам” за іх талент, майстэрства і адданасць нацыянальнай беларускай культуры.

Апошнім часам мне атрымалася знайсці для “Вольных Купалаўцаў” сродкі на рэалізацыю двух новых тэатральных праектаў, якія адбудуцца, у тым ліку, пры падтрымцы фонду Паўла Латушкі. Спадзяюся, што неўзабаве беларуская публіка пабачыць іх.

Заклікаю падтрымліваць “Купалаўцаў”. Калі ў вас ёсць магчымасць, заплаціце падвоены ці нават патроены кошт за квіткі, падтрымайце “Купалаўцаў” і нацыянальную культуру, без якой немагчыма ўявіць незалежную дзяржаву – Беларусь. Купалаўскі тэатр – найстарэйшы тэатр Беларусі, душа беларускага народа. Нам таксама важна памятаць, што неўзабаве і ён адновіць сваю творчую дзейнасць у Вольнай Беларусі”, – адзначыў Павел Латушка.

budzma.org

навіны

# СВЯТЛАНУ АЛЕКСІЕВІЧ У ВІЛЬНІ ВІТАЛІ СОТНІ ЧЫТАЧОЎ ЯЕ КНІГ

У Вільні праходзіў штогадовы кніжны кірмаш, які традыцыйна збірае на адной пляцоўцы літаратараў, выдаўцоў і гандляроў кнігамі з дзясяткамі тысяч аматараў літаратуры з усёй Літвы.

Падзеяй трэцяга дня Vilniaus knygų mugę 2025 стала подыумная дыскусія з удзелам беларускай пісьменніцы, лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі за 2015 год у літаратуры Святланы Алексіевіч.

Разам з ёй тэму "Ці можа культура быць дыпламатычным мостам?" абмяркоўвалі літаратарка Гедрэ Казлаўскайце і вядомы фатограф Антанас Суткус. Мадэратаркай дыскусіі была журналістка Яланта Крыжэвічэне.



### "500 тысяч беларусаў выехалі з Радзімы"

Алексіевіч пачала свой выступ з успаміну пра падзеі 2020 года, якія сталі гістарычнымі для Беларусі.

"Мы перажылі рэвалюцыю. Цяжка гэта казаць, але гэтая рэвалюцыя пацярпела паразу. Людзі верылі, што дадуць рады з Лукашэнкам, але ўмяшаўся Пуцін, які сказаў, што падтрымае яго", – успомніла Святлана Алексіевіч.

Паводле ацэнак пісьменніцы, якая цяпер вымушаная жыць за межамі краіны, праз рэпрэсіі з Беларусі выехалі каля 500 тысяч чалавек. У гэтай лічбе і многія выдаўцы кніг. Напрыклад, у Літву перабралася выдавецтва "Пфляўмбаўм", з якім працуе Святлана Алексіевіч.

Паводле ўражанняў Алексіевіч, беларусы ў Літве "абжываюцца, улюбляюцца ў гэтую цудоўную культуру, вучаць яе мову і знаходзяць усё больш супольнага ў культурах двух народаў". Пісьменніца адзначыла наступную якасць беларусаў як нацыі: "Гэта наш спосаб наладзіць жыццё. Толькі культура здольная зрабіць больш за танкі", – сказала пісьменніца.

Увогуле выказванні Святланы Алексіевіч у час дыскусіі часта ўтрымлівалі згадкі вайны ва Украіне і яе наступстваў для ўсёй Еўропы. Выклікалі авацыі залы, у якой паслухаць пісьменніцу сабраліся больш за 200 чалавек, разважанні пра ролю культуры ва ўсведамленні каштоўнасці чалавека.

"Толькі культура можа змяніць погляд на чалавека, паказаць, што ён варты большага, чым згарэць у танку", – мяркуе Святлана Алексіевіч. Яна прапануе больш ўвагі звяртаць менавіта на гуманнасць як каштоўнасць жыцця.

Дыскусія закранула сённяшнія падзеі ў Беларусі і жыццё суайчыннікаў, якія апынуліся за мяжой. Алексіевіч спаслалася на ўбачанае ў прытулку Dapamoga ў Вільні, дзе напярэдадні ў яе адбылася сустрэча з беларусамі-ўцекачамі. Яна заўважыла, што там ёсць шмат беларускіх кніг, якія купляюць і з задавальненнем чытаюць жыхары асяродку.

"Ведаю, што яны жывуць вельмі сціпла, у іх зусім няма лішніх грошай. Але для чалавека, асабліва пазбаўленага радзімы, вельмі важнае слова, пагатоў, роднае слова", – мяркуе Святлана Алексіевіч.

Падзялілася пісьменніца і трывожным назіраннем. У размове з ёй былая палітзняволеная прызналася, што пасля перажытых выпрабаванняў трымацца ёй дапамагае нянавісць да катаў. Такія пачуцці непакояць пісьменніцу, яна мяркуе, што на нянавісці немагчыма пабудаваць нічога вартага.

Мадэратарка дыспуту спытала пісьменніцу, ці даходзяць у Беларусь беларускія кнігі, у тым ліку ейнага аўтарства, што выдаюцца за мяжой.

На гэта Святлана Алексіевіч адказала з упэўненасцю: "Так, даходзяць, але з вялікімі цяжкасцямі і малой колькасцю". Паводле Алексіевіч, кніг удаецца перадаць адзінкі, бо тым, у каго знойдуць такі груз пры перасячэнні мяжы ў Беларусь, пагражае Акрэсціна – адна з самых страшных вязніц у Беларусі. Таму людзі вязуць адсюль адну-дзве беларускія кнігі, каб не прыцягваць увагі памежнікаў", – расказала пісьменніца.

### "Што такое дэмакратыя? Гэта веды пра свет"

У час гутаркі гучалі згадкі пра розныя спосабы наладжваць і падтрымліваць культурныя сувязі паміж людзьмі з розных краін. Святлана Алексіевіч заклікала больш актыўна абменьвацца здабыткамі культуры, браць за прыклад у іншых народаў тое, што "робіць цябе больш як чалавека".

Пісьменніца зноў падзялілася ўспамінамі пра 2020 год.

"У час маршаў у Менску я бачыла маладых людзей, пра якіх дакладна можна сказаць, што вось гэта – грамадзянская супольнасць. Прыгожыя, добра адукаваныя людзі, якія пабывалі за мяжой, шмат чаму там навучыліся. Раней я бачыла падобных людзей у літаратурным клубе майго імя, які дзейнічаў у Мінску, мы там абмяркоўвалі літаратуру, пытанні культуры. І вось такія людзі прыходзілі на маршы пратэстаў – разумныя, адукаваныя, здольныя вучыцца. Бо што такое дэмакратыя? Гэта веды пра свет, як ён уладкаваны", – сказала Святлана Алексіевіч.

Паводле пісьменніцы, маршы пратэсту падарылі ёй каштоўнае ўсьведамленне, што беларусаў з дэмакратычным мысленнем вельмі шмат.

"Але тады перамагло старэйшае пакаленне, людзі іншага часу", – зноў з сумам прызнала Алексіевіч.

### "...Але Пуціну і Лукашэнку не перамагчы час"

У канцы дыскусіі пісьменніцу спыталі яе меркаванне пра тое, ці перамогуць некалі ў Беларусі тыя людзі, якія ў 2020 годзе выходзілі на пратэсты. Святлана Алексіевіч успомніла "жанчын у белых сукенках з кветкамі" і прызналася, што не ведае, ці вернуцца яны і ці пераможуць. І дадала: "Але я ведаю, што Пуціну і Лукашэнку не перамагчы час".

На Віленскім кніжным кірмашы працуе беларускае выдавецтва "Пфляўмбаўм". Сёлета выдавецтва прапануе наведнікам сем новых кніг, а таксама выдадзеную на літоўскай мове кнігу Святланы Алексіевіч "Апошнія сведкі", складзеную з успамінаў людзей, якія перажылі ІІ Сусветную вайну дзецьмі.

Да стэнду выдавецтва, дзе прадаецца гэтая кніга, выстраілася вялікая чарга з беларусаў і літоўцаў, калі туды прыйшла Святлана Алексіевіч. Дзясяткі людзей з гэтай і іншымі кнігамі чакалі больш за гадзіну, каб атрымаць яе аўтограф альбо зрабіць з ёю здымак.

svaboda.org

# "BELARUS FILM- UND BUCHCLUB" З'ЯВІЎСЯ Ў ВІСБАДЭНЕ



Беларускі Кіна- і кніжны клуб, або Belarus Film- und Buchclub, паўстаў у нямецкім горадзе Вісбадэн. Стварылі яго прадстаўнікі беларускай дыяспары, якія хочуць паглыбляць сваё валоданне беларускай моваі і проста сустракацца разам.

Пакуль адбылася толькі адна імпрэза на пачатку бягучага года, распавёў адзін з галоўных арганізатараў Міхал Вяргейчык:

–Людзі наведваюць імпрэзы, таму што яны проста хочуць далучыцца да беларускай справы. Гэта можа быць вельмі крутым, але праз некаторы час інтарэс і цікавасць да гэтых беларускіх палітычных падзей можа проста зніжацца і наведваць іх будзе ўсё менш людзей. Таму мы падумалі, што трэба зрабіць нешта, што было б цікавае само па сабе. А потым ужо праз беларускасць туды прыходзілі б беларусы.

Міхал Вяргейчык дадаў, што звязацца з арганізатарамі і атрымаць месца правядзення мерапрыемства ды паўдзельнічаць у галасаванні за кнігу ці фільм можна праз суполку беларусаў у Нямеччыне ў сацыяльных сетках.

racyja.com

навіны

# ФОНД ДАПАМОГІ BYSOL ПРАЦЯГВАЕ АКАЗВАЦЬ ДАПАМОГУ

"Цяпер нашую падтрымку могуць адчуць не толькі беларусы, але і ўкраінцы", – распавёў кіраўнік фонду Андрэй Стрыжак.

– Мы пачалі нашую дапамогу тры гады таму, у 2022 годзе. З першага ж дня поўнамаштабнага ўварвання расейскіх войскаў на тэрыторыю Украіны. І дзве асноўныя катэгорыі, праз якія мы аказвалі дапамогу цягам гэтых трох гадоў, гэта ўкраінскія медыкі з адной з добраахвотных структур, першы дабравольны мабільны шпіталь. Мы туды пастаўлялі аўтамабілі, некалькі дзясяткаў машын рэанімацыі, джыпаў, якія таксама былі перабудаваныя ў рэанімацыйныя аўтамабілі. А таксама гэта беларускія добраахвотнікі, якія ваюють у шэрагах украінскага войска. Мы не рабілі адрозненняў, у якіх аддзелах яны ваююць.



Праз тры гады можна сказаць, што сітуацыя змянілася і мы адышлі ад канцэпту агульнага збору на гэтыя мэты. Цяпер мы падтрымліваем збольшага зборы, з якімі да нас прыходзяць беларускія добраахвотнікі і людзі, якія ўжо больш не служаць у ўкраінскім войску, але траўмаваліся або параніліся за час службы.

Вельмі важна, што тая дапамога, якую мы аказваем, яна носіць нелетальны характар. Мы не купляем зброі, не перадаём зброі, у нас ёсць мандат, які нас абмяжоўвае ў гэтым, і гэта збольшага транспарт, сродкі абароны, каскі, панцыры, сродкі сувязі, медыцына і іншыя рэчы.

**– Калі казаць пра беларускую павестку, то мы назіраем чарговую хвалю вызвалення палітвязняў. Як гэта адбіваецца на працы BySol? Ці павялічваецца колькасць людзей, якія звяртаюцца да вас?**

– У нас ёсць два асноўныя кірункі аказання дапамогі. Першы – разавая выплата, якую мы робім людзям, якія выйшлі з турмы. Яна на сённяшні дзень складае 1000 еўра. Гэтую суму мы можам выплочваць дзякуючы намаганням па пошуку сродкаў і ў тым ліку рознымі інстытуцыйнымі структурамі, напрыклад, дзякуючы офісу Святланы Ціханоўскай быў створаны міжнародны гуманітарны фонд, куды ўваходзіць таксама BySol, у нас ёсць магчымасць адтуль атрымліваць сродкі. У першую чаргу гэта сродкі, якія вылучаюць на дапамогу беларускім палітвязням урады паўночных краін: Швецыя, Нарвегія, Данія і іншыя краіны, што далучыліся да гэтага гуманітарнага фонду. Калі гаварыць пра тое, якія ёсць яшчэ мажлівасці дапамогі, то ў нас яшчэ можна арганізаваць персанальны збор, які можна адкрыць чалавеку, і там самыя розныя сумы людзі запытваюць. Я думаю, што не менш за 1500 звычайна ставяць мэту такога збору, і верхняя планка не абмежаваная фактычна, бо ў людзей розныя бываюць сітуацыі, што часам вымагаюць вялікіх грашовых выдаткаў. Калі гаварыць пра тое, наколькі моцна ўплываюць гэтыя хвалі вызваленняў, я б не сказаў, што гэта робіць суперусплёскі па зваротах у нашую структуру. У нас ёсць досыць сталая плынь людзей, якія прыходзяць па дапамогу. Падвышаная колькасць людзей фіксуецца хутчэй, калі мы праводзім нейкія кампаніі. Прыкладам, тройчы на год мы праводзім кампаніі падтрымкі дзяцей палітвязняў і вызваленых палітвязняў на Каляды, першага верасня, пачатак лета – вось тады да нас адначасна можа прыйсці 250 заявак адначасна ад гэтых сем'яў.

Марына Савіцкая, racyja.com

# ЦІХАНОЎСКАЯ ПРА ПАЛОННЫХ БЕЛАРУСКІХ ВАЯРОЎ: МЫ СІСТЭМАТЫЧНА ЎЗНІМАЕМ ПЫТАННІ УКЛЮЧЭННЯ ІХ У СПІСЫ НА АБМЕН

"Мы сістэматычна ўзнімаем пытанні ўключэння беларускіх добраахвотнікаў у спісы на абмены праз Міністэрства замежных спраў Украіны і Вярхоўную Раду", – заявіла дэмакратычная лідарка Святлана Ціханоўская ў 1000-ы дзень знаходжання вояроў палка імя Кастуся Каліноўскага (ПКК) Яна Дзюрбейкі і Сяргея Дзёгцева ў расійскім палоне.

"Я вельмі спадзяюся, што хутка яны атрымаюць шанц на вяртанне", – адзначыла палітык у сваім тэлеграм-канале.

Дэмакратычная лідарка падкрэсліла, што "ні сябры, ані сем'і не ведаюць, у якіх умовах трымаюць" палонных беларускіх вояроў, "ці атрымліваюць яны ежу і ваду", "ці маюць магчымасць спаць без страху за жыццё", "ці ведаюць яны, што пра іх памятаюць, чакаюць".

"У навінах пасля абмену палоннымі мы бачым, у якім стане вяртаюцца ўкраінскія вайскоўцы пасля жудасных умоваў у няволі, – канстатавала яна. – Гэтыя кадры цяжка глядзець і немагчыма забыць. Страшна нават уявіць, праз што праходзяць нашыя хлопцы, і які след – фізічны, псіхалагічны, эмацыйны – гэтыя катаванні пакідаюць на іх жыццях".

Ціханоўская заклікала падтрымліваць беларускіх добраахвотнікаў, нягледзячы на тое, што "тры гады вайны і жахаў нават самага стойкага чалавека спустошаць эмацыйна" і часам "вельмі хочацца адгарадзіцца ад гэтага болю: дыстанцыявацца, адпісацца ад стужак навін, выключыць прамыя ўключэнні з Украіны на "Ютубе"".

"Але гэтая вайна побач. Гэтая вайна – тут і цяпер. І як бы балюча ні было ўсведамляць яе жах, трэба глядзець праўдзе ў вочы. Трэба намагацца не згубіць спачування і салідарнасці. Трэба памятаць пра тых, хто цяпер у палоне, на фронце, у беларускіх турмах, і падтрымліваць іх і іх сем'і, нават маленькімі дзеяннямі. Бо маўчанне і абыякавасць – гэта тое, чаго хоча і на што спадзяецца вораг. А нашая сіла – у еднасці", – заявіла палітык.

Ян "Тромблі" Дзюрбейка і Сяргей "Клешч" Дзёгцеў трапілі ў палон пасля бою пад Лісічанскам 26 чэрвеня 2022 года.

11 ліпеня 2023 года Валерый Сахашчык, які тады займаў пасаду прадстаўніка Аб'яднанага пераходнага кабінета па абароне і нацыянальнай бяспецы, паведаміў журналістам у Вільнюсе, што, паводле яго інфармацыі, Дзюрбейка і Дзёгцеў жывыя.

Летась 7 кастрычніка "пракуратура" так званай "данецкай народнай рэспублікі", паведаміла, што Дзюрбейка завочна прыгавораны да 14 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Вырак вынес "вярхоўны суд" гэтага сепаратысцкага ўтварэння на анэксаванай Расіяй тэрыторыі Украіны. Тады адзначалася, што 28-гадовы грамадзянін Беларусі прызнаны вінаватым паводле ч. 3 ст. 359 КК РФ (удзел найміта ва ўзброеным канфлікце).



За некалькі месяцаў да выраку Генпракуратура РФ заявіла, што Дзюрбейка "абвешчаны ў міжнародны вышук, у дачыненні да яго судом завочна абраная мера стрымання ў выглядзе ўзяцця пад варту".

На сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай дыяспары 23 лістапада ў Вільнюсе камандзір палка Каліноўскага Павел "Дзядзька" Шурмей сказаў, што пра двух палонных байцоў, "на жаль, больш як за два гады няма ніякіх звестак". Камандзір ПКК не стаў нават меркаваць, жывыя яны ці не. Разам з тым ён паведаміў, што абодва палонныя байцы "заяўленыя ў абменны фонд".

pozirk.online

навіны

# Польскай пачатковай школе на Беласточчыне прысвоена імя беларускага паэта Віктара Шведа




У сядзібе Гміны Чыжы аднагалосна прагаласавалі за прысваенне імя Віктара Шведа пачатковай школе ў Чыжах. Гэта вялікая радасць і сімвалічная падзея да стагоддзя Віктара Шведа, якое будзем адзначаць 23 сакавіка, піша Цэнтр беларускай культуры ў Беластоку.

Віктар Швед нарадзіўся 23 сакавіка 1925 году ў вёсцы Мора на Падляшшы. Творчасць Віктара Шведа – гэта сямнаццаць зборнікаў вершаў пабеларуску і ў асабістым перакладзе на польскую мову. Пад канец жыцця выдаў яшчэ дзве кнігі ўспамінаў "З Мора ў горад". Быў сябрам Саюза польскіх літаратараў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, трымаў шматлікія адзнакі і ўзнагароды.

budzma.org

# Яана Троц: Спадзяюся, што змагла паказаць праз спектакль пачатак паэтычнага шляху Віктара Шведа

Актрыса, рэжысёрка і заснавальніца тэатра "Чрэва" Яана Троц не толькі нядаўна атрымала стыпендыю маршалка Падляшскага ваяводства, але і ўжо 23 сакавіка прадставіць прэм'еру свайго спектакля "Віця" ў Падляшскай оперы і філармоніі. Натхнёны жыццём і творчасцю Віктара Шведа, гэты спектакль спалучае традыцыі і сучаснасць, рэп і колавую ліру, дзіцячую бесклапотнасць і мудрасць дарослых.

Яана Троц распавядае, як яна адчувае спадчыну самога Віктара Шведа; пра пульс Падляшша, які яна перадае праз свае пастаноўкі; а таксама закранае тэму мігрантаў у спектаклях і іх месцы ў гэтым свеце.

**– На што пойдзе стыпендыя і якія вашы ўражанні, што маршалкаўская ўправа падтрымлівае такія праекты?**

– Для незалежных артыстаў гэта вельмі важная справа, калі я не звязаная з нейкай інстытуцыяй, проста мая дзейнасць незалежная. І тут, дзякуючы таму, што атрымала стыпендыю, змагла зрабіць артыстычны праект, падрыхтаваць новы сцэнар для спектакля.

**– Напэўна, зараз яшчэ галава ваша крыху ў працэсе спектакля "Віця", які таксама будзе ў гэтым памяшканні. Як усё ідзе, ці ўсё гатова, ці была ўжо генеральная рэпетыцыя?**

– Якраз сёння і ў суботу мантаж у оперы. Гэта будзе такі спецыяльны спектакль, мне здаецца, што такога спектакля даўно не было нават у Беластоку. Таму што тут будзе шмат розных асяродкаў, звязаных з сабою, такіх як оперны акцёр, малады рэпер, асяроддзе лялек, група дзяцей, з якімі я вяду тэатральныя заняткі, і якія граюць у школьным аркестры. І гэты ўсе асяродкі хочам звязаць паміж сабой і хочам, каб мы ўсе расказалі пра гісторыю "Віці". Бо мы запрашаем і дзяцей на гэты спектакль, каб пазнаць Віцю – малога хлопца, які хоча быць паэтам. Гэта не Віктар Швед, якога мы ўжо ведаем, які слаўны і вялікі паэт, не. Гэта будзе Віця, гэта будзе хлопец, у якога мары і ў якога адвага, каб споўніць гэтыя мары. А можа бракуе гэтай адвагі і патрэбны сябра, які дапаможа, а можа патрэбны яшчэ хтосьці, каб ты здзейсніў свае мары. І тут будзем пра гэта распавядаць, а таксама прэзэнтаваць вершы Віктара Шведа ў спецыяльных апрацоўках.



**– Як вы лічыце, Віктару Шведу спадабаўся б гэты спектакль?**

– Я аўтарка гэтага сцэнарыя, і мне здаецца, што я старалася знайсці нейкую праўду пра дзіця, пра хлопца, які яшчэ невялікі паэт, а яшчэ ён вельмі такі ўражлівы, далікатны і глядзіць на гэты свет як паэт і вельмі хоча пісаць, вельмі хоча распавесці пра сябе і як ён гэты свет бачыць. Але не заўсёды так проста – і бяда, бо гэта вёска перад вайной, і розныя іншыя падзеі. Яны не дапамагаюць, але ёсць таксама такія людзі і такія рэчы, ёсць такія сітуацыі, якія могуць дапамагчы, якія вельмі патрэбныя, каб гэтае дзіця далей пісала, каб яно далей верыла, што гэта ўдасца, каб гэтую адвагу падтрымаць і развіваць у сабе. Маю надзею, што дзеці, якія прыйдуць на гэты спектакль, маглі б сябе індэнтыфікаваць з гэтым героем.

Вольга Сямашка, racyja.com

# Святлане Ціханоўскай прысвоілі званне ганаровай грамадзянкі італьянскай Балонні

4 сакавіка мэр італьянскай Балонні Матэа Лепорэ прысвоіў ганаровае грамадзянства горада беларускай дэмакратычнай лідарцы Святлане Ціханоўскай.

Урачыстая цырымонія прайшла 4 сакавіка ў зале гарадской рады. Рашэнне аб прысваенні Святлане Ціханоўскай звання ганаровай грамадзянкі гарадская рада Балонні аднагалосна ўхваліла 18 снежня 2023 года.

Ганаровае грамадзянства "гэта не проста сімвалічны жэст, але канкрэтны знак блізкасці да яе барацьбы і барацьбы беларускага народа", заявіла старшыня гарадской рады Балонні Марыя Катэрына Манка, піша італьянская прэса.

"Гэты жэст нясе сабой важнае пасланне салідарнасці для ўсяго беларускага народу, які змагаецца супраць дыктатуры. Італія і Балоння змагаюцца за каштоўнасці і прынцыпы, на якіх заснавана ваша краіна і за якія людзі ў Беларусі ахвяруюць жыццём і свабодай", – сказала ў адказ Ціханоўская.

svaboda.org



Святлана Ціханоўская з мэрам Балонні Матэо Лепорэ і прадстаўніцай гарадской рады

навіны

# У Вільні прайшоў спектакль да Дня Волі, які выклікаў шквал эмоцый

Слёзы, смех, сум, жаль, горыч і боль. Такія пачуцці выклікаў у гледачоў спектакль "Цесля". Яго прэм'ера па-беларуску прайшла ў Вільні 24 сакавіка. У Арт-прасторы VILEISIO18 адбыліся нават дзве пастаноўкі запар. На першай прысутнічалі палітык Святлана Ціханоўская і спецпрадстаўніца Літвы ў беларускіх справах Аста Андрыяўскене.




Гэты спектакль адлюстроўвае лёс шматлікіх беларускіх сем'яў, падзеленых і ў часе, і ў прасторы апошнімі падзеямі ў Беларусі.

Сваімі ўражаннямі і пачуццямі пасля спектаклю падзяліліся беларускія гледачы.

– Усе з Беларусі, якія перажылі 2020 год, яны тут ужо з нейкай агульнай калектыўнай траўмай. А такія імпрэзы як сеансы калектыўнай псіхатэрапіі, мне падаецца. Таму што, магчыма, яшчэ не ўсе ўсвядомілі той вопыт, які перажылі ў 2020 годзе, і па гэты дзень працягваем. Балюча насамрэч глядзець на ўсё гэта, таму што шматлікія знаёмыя ў падобнай сітуацыі. Вельмі блізкая тэма.

У спектаклі была задзейнічана беларуска-расейска-літоўская творчая каманда. Галоўную ролю цеслі выканаў беларускі акцёр з трыццацігадовым досведам Сяржук Тоўсцікаў. А тыпаж беларускай раённай чыноўніцы выдатна адлюстравала акцёрка Эмілія Пранскутэ:

– Вельмі добра, што людзі не саромеюцца выказваць свае эмоцыі ў зале, калі ім смешна, то яны смяюцца і не могуць спыніцца. Нам падабаецца гэтая рэакцыя, яна бывае нечаканай, але гэта так і павінна быць у тэатры. І не заўсёды ты ведаеш, якая будзе рэакцыя, бываюць парадаксальныя рэакцыі. Кранае нас таксама, калі мы адчуваем, што нездарма мы нешта робім, што кагосьці гэта кранае. Вельмі цудоўна, што адгукаецца людзям. Гэта наша мэта была, каб адгукалася, у нас у саміх адгукаецца гэта тэма

Спектакль "Цесля" ў Вільні быў прысвечаны Дню Волі.

racyja.com

# Кансерватыўная партыя Нарвегіі ўзнагародзіла Ціханоўскую прэміяй Ліндэбрэке

Кансерватыўная партыя Нарвегіі (Høyre) на з'ездзе 22 сакавіка ўзнагародзіла прэміяй імя Сьюра Ліндэбрэке ў галіне дэмакратыі і правоў чалавека кіраўніцу Аб'яднанага пераходнага кабінета Святлану Ціханоўскую, вынікае з паведамлення на партыйным сайце.

Адзначаецца, што кандыдатуру беларускай дэмакратычнай лідаркі падтрымаў незалежны камітэт пад старшынствам палітолага, пісьменніцы і палітыка Янэ Хааланд Матлары. "Святлана Ціханоўская вядзе смелую барацьбу за дэмакратыю. Беларусь часта забываюць у навінах на фоне жорсткай вайны ва Украіне. Ціханоўская заслугоўвае прызнання за сваё лідарства і трываласць", – падкрэсліла Матлары.

Лідар Høyre Эрна Сульберг (прэм'ер-міністарка Нарвегіі ў 2013–2021 гадах) заявіла, што прэмія служыць прызнаннем працы Ціханоўскай і яе калегаў "у імя дэмакратычнай будучыні Беларусі". Паводле слоў палітыка, беларуская дэмакратычная лідарка "штодня плаціць



"Позірк"

Акцыя ў падтрымку беларускіх палітвязняў (9 сакавіка 2025 года, Вільнюс)

высокую асабістую цану, паколькі ўлады Беларусі пазбаўляюць яе мужа кантактаў са знешнім светам", а таксама нагадвае, "якую пагрозу рэжым Пуціна прадстаўляе для міру і свабоды ва ўсёй Еўропе".

Грашовая частка прэміі складае 50 тысяч нарвежскіх крон (каля 4.750 долараў). Гэтыя сродкі будуць накіраваныя "на працу офіса Ціханоўскай па падтрымцы дэмакратыі і палітычных зняволеных у Беларусі".

Паводле інфармацыі прэс-службы беларускага палітыка, Ціханоўская падзякавала Høyre ў відэазвароце да ўдзельнікаў з'езда, падкрэсліўшы, што гэтая ўзнагарода не толькі для яе.

"Яна належыць усім дзяўчатам, усім палітычным зняволеным, якія адмаўляюцца здавацца, усім журналістам, якія рызыкуюць усім, каб расказаць праўду. Шмат каго прысудзілі да дзясяткаў гадоў пазбаўлення волі толькі за тое, што яны адважыліся выказацца", – заявіла дэмакратычная лідарка.

Ціханоўская таксама адзначыла, што Беларусь "па-ранейшаму мае патрэбу ва ўвазе Захаду".

У 2007 годзе прэміяй Ліндэбреке былі ўзнагароджаныя Партыя БНФ і Аб'яднаная грамадзянская партыя (абедзве дэ-юрэ ліквідаваныя ўлетку 2023 года ў выніку праведзенай рэжымам Аляксандра Лукашэнкі зачысткі палітычнага поля краіны).

Партыя Høyre заснавана 25 жніўня 1884 года і з'яўляецца другой найстарэйшай палітычнай сілай у Нарвегіі пасля Ліберальнай партыі (Venstre; 28 студзеня 1884 года).

Займае другое месца паводле колькасці крэслаў у парламенце (36 з 169), але знаходзіцца ў апазіцыі да кіроўнай фракцыі, у якую ўваходзяць Рабочая партыя (48) і Партыя цэнтра (28).

pozirk.online

“Будзьма беларусамі!”

# ЯК ЗАСТАВАЦЦА НА БЕЛАРУСКАЙ ХВАЛІ Ў ЛЮБОЙ КРОПЦЫ СВЕТУ? ДАПАМОЖА АДМЫСЛОВЫ ТЭЛЕГРАМ-БОТ

Кампанія “Будзьма беларусамі” запусціла дужа карысны тэлеграм-бот “Будзьма разам!”, які паведамляе падпісчыкам пра цікавыя беларускія мерапрыемствы па ўсім свеце. Карыстаюцца ім ужо амаль 5 тысяч беларусаў! Далучайцеся і вы!

Цяпер, дзе б вы ні былі, вы можаце заставацца на беларускай хвалі і даведвацца пра беларускія падзеі – канцэрты і выставы, акцыі ды імпрэзы, лекцыі, майстар-класы і фэсты – у горадзе, дзе жывяце, па ўсёй краіне, анлайн ці наогул па ўсім свеце.

Ад 2020 года Беларусь зазнала масавую хвалю эміграцыі. Безліч нашых суродзічаў на ўласным досведзе зразумелі, як цяжка на новым месцы ўліцца ў мясцовае жыццё, адшукаць сяброў ды паплечнікаў, не згубіць сувязяў з беларускім асяродкам.

З ботам больш няма патрэбы па драбочках шукаць звесткі пра беларускія падзеі – дастаткова выбраць у боце горад, у якім вы апынуліся, і падпісацца на абнаўленні. Бот максімальна акумулюе такую інфармацыю, а вы будзеце атрымліваць пуш-паведамленні і зможаце наведаць беларускія мерапрыемствы, дзе можна пазнаёміцца з суайчыннікамі, усталяваць кантакты, знайсці аднадумцаў. Ды і проста ў цёмныя часы ўсвядоміць, колькі ўсяго беларусы робяць па розных краінах, і адчуць сябе несамотным!



Бот будзе карысным не толькі для тых, хто з’ехаў, але ж і для беларусаў на Радзіме. Ён своечасова нагадае пра цікавыя падзеі ў розных гарадах Беларусі і дапаможа адчуваць повязь з іншымі, калі здаецца, што ўсе з’ехалі і нічога не адбываецца.

Зараз у боце знойдзеце абвесткі пра падзеі ў Беларусі, Польшчы, Літве, Латвіі, Германіі, Грузіі, Вялікабрытаніі, Чэхіі, ЗША, а таксама анлайн. І бот актыўна пашыраецца!

У меню рэгулярна дадаюцца новыя опцыі і гарады: надоечы, напрыклад, з’явіўся Уроцлаў і Быдгашч. Абяцаюць і новыя краіны, дзе жыве беларуская дыяспара і дзе беларускі рух.

Карыстацца ботам проста: выбірайце той ці іншы горад або ўсю краіну, падпісвайцеся асобна на ўсе анлайн-мерапрыемствы ці выбірайце варыянт all inclusive – усе беларускія падзеі свету (у тым ліку і анлайн-мерапрыемствы). А пасля – сачыце за беларускім дзвіжам і далучайцеся!

Калі вы ладзіце мерапрыемства альбо ведаеце, што ў вашым горадзе яно будзе, дасылайце ў бот абвестку, а бот падзеліцца ёю з усімі карыстальнікамі.

Каманда бота падкрэслівае, што чула рэагуе на водгукі і заўсёды рада фідбэку, таму калі вам не хапае пэўнага горада ці краіны, калі вы сутыкнуліся з багам бота, калі ў вас ёсць прапановы, як бот удасканаліць – паведамляйце! Гэта можна рабіць проста праз радок паведамлення!

Далучайцеся і дзяліцеся спасылкай на бот з сябрамі – https://t.me/budzma_razam_bot!

Будзьма беларусамі ў любой кропцы свету і будзьма разам!

навіны

# СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАЙ РАДЫ УКРАІНЫ ПАДАРЫЛІ КАЛЯНДАР ПРА ЗАГІНУЛЫХ БЕЛАРУСАЎ

Старшыні Вярхоўнай рады Украіны Руслану Стэфанчуку падарылі каляндар з партрэтамі загінулых беларускіх добраахвотнікаў. Аляксей Францкевіч запрасіў яго ў “Дом Вольнай Беларусі” ў Львове і распавёў пра яго дзейнасць. У ім дзейнічае музей “Вольная Беларусь з Украінай у сэрцы”. У экспазіцыі прадстаўленыя матэрыялы пра беларускіх герояў, іх асабістыя рэчы.

“Наш абавязак – зрабіць усё, каб іх [добраахвотнікаў з амаль 60 краін свету] ахвяра прывяла да перамогі”, – піша Стэфанчук у Facebook.

euroradio.fm




Аляксей Францкевіч і Руслан Стэфанчук

## Беларускі каляндар памятных дат на красавік 2025 года

**1 красавіка**
• 85 гадоў таму, у 1940-м, памёр Язэп Лёсік, мовазнавец, пісьменнік.

**2 красавіка**
• 30 гадоў таму, у 1995-м, памёр Пімен Панчанка, народны паэт Беларусі.

**3 красавіка**
• 45 гадоў таму, у 1980-м, памёр Леанід Галяк, юрыст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**5 красавіка**
• 85 гадоў таму, у 1940-м, памёр Мікалай Шчакаціхін, мастацтвазнавец.

**10 красавіка**
• 125 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Гаўрыла Гарэцкі, геолаг, географ, эканаміст, дэмограф. Памёр у 1988-м.
• 120 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Сцяпан Баркоўскі, літаратуразнавец, этнограф. Памёр у 1966-м.

**12 красавіка**
• 135 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Янка Нёманскі (сапр. Іван Пятровіч), пісьменнік, эканаміст. Расстраляны ў 1937-м.

**14 красавіка**
• 145 гадоў таму, у 1880-м, нарадзіўся Язэп Дыла, пісьменнік. Памёр у 1973-м.
• 140 гадоў таму, у 1885-м, нарадзіўся Сымон Рак-Міхайлоўскі, заснавальнік настаўніцкай семінарыі ў Барунах. Расстраляны ў 1938-м.
• 105 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Аляксей Карпюк, пісьменнік. Памёр у 1992-м.

**15 красавіка**
• 125 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Уладзімір Тамашчык (у манастве Васіль), архіепіскап БАПЦ на эміграцыі. Памёр у 1970-м.

**16 красавіка**
• 85 гадоў таму, у 1940-м, памёр Адам Багдановіч, этнограф, гісторык культуры.

**20 красавіка**
• 115 гадоў таму, у 1910-м, памёр Сяргей Палуян, празаік, літаратуразнавец.

**21 красавіка**
• 190 гадоў таму, у 1835-м, нарадзіўся Ялегі Пранціш Вуль (сапр. Элегі Карафа-Корбут), паэт.
• 30 гадоў таму, у 2005-м, памёр Барыс Рагуля, вайсковы дзеяч, дзеяч беларускай эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і Канадзе.

**24 красавіка**
• 30 гадоў таму, у 1995-м, памёр Міхась Зуй, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

**26 красавіка**
• Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986).
• 190 гадоў таму, у 1835-м, памёр Анёл Доўгірд, філосаф, логік.

**28 красавіка**
• 125 гадоў таму, у 1900-м, памёр Францішак Багушэвіч, паэт, празаік.
• 80 гадоў таму, у 1945-м, загінуў Сяргей Крывец, паэт.

**29 красавіка**
• 25 гадоў таму, у 1990-м, памёр Юры Попка, выдавец, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

**Беларусы ў свеце**
№ 3 (274), сакавік 2025
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com